Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 6 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 26-га жніўня 1933 г. | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр., у 3 » —70 », у ½ года—1.30, у 1 год —2.50

## З новым школьным годам!

Надыйшоў новы школьны год. Ізноў мільёны дзяцей, мільёны будучых гаспадароў жыцьця з торбачкамі і кніжкамі ранічай бягуць да школкі, да будынку, дзе яны павінны атрымаць веду, навучыцца пісаць і чытаць, з сьляпых стацца відучымі, здольнымі гутарыць з тым, што напісана чалавецтвам у тоўстых кніжках.

Але ізноў глыбокі жаль агортвае кожнага сьвядомага беларуса, калі ён падумае аб тым, што яго дзіця змушана вучыцца ня ў той мове, якую яно ўжывае вясною і летам, кожную хвіліну ў сваёй хаце, каля свае гаспадаркі, а ў мове мала або і зусім для яго незразумелай.

Ізноў душа беларускага народу напаўняецца горкім смуткам, калі ён ўсьвядоміць сабе, што яго шматгадовае слушнае дамаганьне адчыненьня роднае школы не заспакоілася, што адкрыцьцё некалькі т. зв. утраквістычных школаў і існаваньне ў сёньняшнюю хвіліну дзьвёх беларускіх філіяў польскіх гімназіяў зьяўляецца толькі маленькай капляй у агромным моры нашых патрэбаў. Старая гэта гісторыя. З гэтым сумным станам мы ўжо неяк зжыліся, нам ён, у цяперашніх варунках, пачынае здавацца натуральным. Але ніщто ня здолее загасіць у нас поўнага парыву імкненьня да здабыцьця таго, што нам належыць, як народу, які мае сваю слаўную гісторыю, сваю культуру, сваю зямлю, свае багацейшыя ў сьвеце звычаі, народу, які хоча ісьці побач з другімі культурнымі народамі, будаваць сваю гаспадарку, вызначаць свой лёс.

Пачатак новага школьнага году толькі аднаўляе, толькі завастрае тую спрадвечную рану нашага народу, якая называецца школьным пытаньнем. Кожын з нас ведае, што на беларускай мове гаворыць дванаццаць мільёнаў людзей, што на беларускай мове напісана багатая літаратура, што беларуская мова зьяўляецца адной з багацейшых славянскіх моваў — і ў гэты самы час кожын з нас ведае, што мы ў сваёй краіне пазбаўлены амаль магчымасьці мець родную школу. Вось з гэтым сумным малюнкам ізноў спатыкае нас сёлета новы навучальны год.

Але з другога боку, пачатак новага школьнага году становіцца для нас, беларусоў, мамэнтам узмацненьня дзеяльнасьці ў кірунку дамаганьня загварантаваных нам канстытуцыяй і гісторыяй правоў на адчыненьне беларускіх школаў для беларускіх дзяцей. Умовы ня лёгкія! Аднак яны ні ў якім выпадку не павінны нас затрымаць, забіць надзею на лепшую будучыню. Не зважаючы на бязплоднасьць дацяперашніх нашых дамаганьняў, не зважаючы на тое, што шмат ужо высілкаў паложана на аўтар беларускага школьніцтва — хай гэты школьны год станецца годам агульнага патрабаваньня адчыненьне школаў у роднай мове. Кожын беларус і беларуска, кожын беларускі сялянін і работнік павінны зразумець, што родная школа—гэта ўзмацненьне і пашырэньне культуры, гэта разьвіцьцё літэратуры, узмацненьне і паглыбленьне нацыянальнай сьведамасьці. Няхай кожная вёска Зах. Беларусі праз сваіх радных, праз бацькаўскія камітэты, на агульных грамадзкіх сходах, праз новае і новае складаньне школьных дэкляарацыяў дамагаецца беларускае школы. Пакажам яшчэ раз нашу сілу, нашу здольнасьць да нацыянальнага жыцьця. Наўпракі нацыяналістычна-эндэцкім беларусаедам пакажам, што мы жывём, як народ і будзем жыць, хоць лёс і сьмяецца над намі.

Новы год спаткаем з новымі дамаганьнямі, хай гэта будзе хоць у соты раз. Дамаганьне ня кепскіх спраў, а роднае школы для сваіх дзяцей! Дамаганьне сьвятла, культуры, бо мы добра пазналі смак адвечнай цемры, пазналі лёс цёмнага, неадукаванага чалавека. Кожын бацька мусіць гэта бачыць і адчуць, што яго дзіця павінна навучыцца разумець навакольны сьвет і жыць іначай, чым мы жывём.

## Хто здраднік?

Калі цябе вораг твой гладзіць па плячку, хваліць, сьмяецца і рукі паціраае, значыць ты дзесь *прашляпаў*. Пачынай шукаць дзе, а то будзе позна. Будзе дрэнна ў хвіліны, патрабуючыя хуткага і безпаваротнага рашэньня.

Нашы хадэкі крычаць, ня могуць падабраць слоў для лаянкі, бегаюць, шукаюць рады, неспакойна сьпяць у ночы. Але тым спакайней павінны працаваць мы пэўныя ў выбранным намі шляху, які паказвае беларускаму працоўнаму народу аблічча, зьмест і мэты хрэсьціянскіх дэмакратаў з ксяндзом Станкевічам на чале.

Яны крычаць, бо ведаюць, што калі беларус бядак уцяміць іх жаданьні дык ня толькі з імі ня пойдзя, але нават па загуменьню прайці ім ня дасьць. Калісь генэрал часоў Франца Іосіфа казаў: „Мы маем моц пакуль народ ня ведае чаго мы хочам; калі ён гэта зразумеў, тады трэба шукаць рады і як найхучэй, бо можна спазьніцца“.

Так і хадэкі. Ведаючы, як кажуць, простыя рэчы, яны напружваюць ўсе сілы каб утрымаць у сваіх цянетах тую колькасьць людзей, якая да іх папала і, затуманіўшы галовы, ўцягнуць новых. Гэтае затуманьваньне галоў паміма свае штодзеннае работы яны вядуць праз сваю газэту „Крыніцу“ якая з пенаю ў роце накінулася на нашу „Беларускую Газэту“, абвінавачвая нас у „здрадзе“.

Якія довады нашае „здрады“, а свае вернасьці высоўваюць яны?

Першы наш грэх у тым, што мы выступаем супроць капіталістычнай рэвізыі граніц, а іх (так думае Станкевіч) заслуга ў тым, што яны стаяць за такую рэвізыю. Хадэкі за капіталістычны перадзел міру, за тое каб Гітлер, хутчэй выступаў з барабанным маршам на усход, яго спаткаюць людзі „Крыніцы“, якія клянуцца ў вернасьці свайму Беларускаму народу. Спаткаюць і скажуць: „Зямля наша велікая мае 12 мільёнаў людзей, але-ж няма парадку, навядзі яго, мы за гэта заплацім шчодра“. Што, да шчодрасьці, дык яна можа быць аднэй—плата шкураю ў пасталы абутага бедака.

Мы за вырашэньне лёсу нашага народу самым працоўным народам, яны клічуць Адольфа Гітлера. Яны хочуць забраць сына ад мацеры, мужыка ад жонкі. бацька ад дзяцей, апрануць іх у мундур выдадзены Гітлерам і паслаць на сьмерць за капіталістычны пе радзел сьвету. Мы гэтага ня хочам і за тое, што ня хочам нас называюць „здраднікамі“. Нізам дадзена права судзіць, хто сапраўды заслужыў цяжкага абвінавачаньня „здраднік“.

У № 27 свае газэты хадэкі пішуць: „Беларуская Хрысьціянская Дэмократыя, стоячы на грунце самастанаўленьня народаў, імкнецца да самастойнасьці Беларускага народу на усіх яго землях аб'яднаных у незалежную (?) дэмакратычную рэспубліку. Б. Х. Д. імкнецца, каб мы, беларусы, самі кіравалі сабой»... Параўняйце гэтыя анельскія словы з тым, што мы разьбіралі і вы зразумеце якую незалежнасьць нясуць Станкевічы, Пазьнякі і ім падобныя.

Падумайце добра над такою хадэцкаю незалежнасьцю і вы знойдзеце прыклады, існуючыя ў нашы дні. «Б. Х. Д. — пішуць далей — уважае карысным ўвайсьці у гаспадарчы і палітычны саюз з суседнімі народаміі з якімі лучаць беларусоў супольныя інтарэсы, напрыклад, украінцамі, літоўцамі, латышамі і іншымі...»

Ці не зразумела, што Б. Х. Д. «за гаспадарчы і палітычны саюз» з тымі, чые інтэрэсы супольны з інтэрэсамі Хадэцыі. Яны за саюз з УНДО, з сьвентым Казімежам на літоўскай вуліцы, ну і з гітлероўскай Нямеччынай. Гэтага не схаваць хадэкам ад сярмяжнага люду.

Не схаваць мінуўшчыны, калі ў 1917 годзе слалі прывітальныя тэлеграмы тымчасоваму ўраду пана Керэнскага, а пасьля, перапалохаўшыся волі народу, кінуліся на грудзі нямецкаму кайзэру.

Сілаю падзеяў яны прымушаны падняць „радыкальны“ лемант. Няма дзіва, калі гэтыя купцы пішуць: „Праграма БХД § 38 кажа: усе землі перавышаючыя працоўную норму перадаюцца (слухайце!) на ўласнасьць і бяз (?!) выкупу (!) беззямельным і малазямельным сялянам“ Гітлер много абяцаў сваім штурмавікам, нават высоўваў радыкальную зямельную рэформу, але з прыходам да ўлады ўсіх, хто заікнецца аб правядзеньні ў жыцьце хоць тае недарэчнае праграмы, кідае за краты, канцягеры, аддае, пад суд. Для прыманкі высунулі верные сабе хадэкі гэты зямельны лёзунг, гэты параграф, аб якім ведае і малы і стары нашае вёскі.

Так выглядаюць сапраўдныя рэчы. Гэта павінны ведаць шырокія масы беларускага народу даць адказ, дзе здрада.

*Я. Баравізна.*

**Ці ты ўжо падпісаўся на „Беларускую Газэту“?**

## „Новы памазаннік“.

З прыходам Гітлера да ўлады, як і трэба было прадбачыць, заварушыліся ізноў былыя расіяне-белагвардзейцы, з агульнаю мэтаю — вярнуць згубленае падчас 1917 году.

Плян Гітлера—Гугэнберга прыходзіцца ім па душцы, а Гітлеру гэтак сама прыемна мець супольнікаў у выкананьні сваіх намераў—пасунуць нямецкую расу на ўсход. Узаемнае жаданьне, узаемныя мэты. Пры такім стане рэчаў дужы пачынае дапамагаць слабейшаму, заўсёды захоўваючы сталёвую пэўнасьць, што турботы акупяцца ў стократ.

Таму Гітлер з першых дзён свайго панаваньня, верным саюзьнікам—расейскім белагвардзейцам стаў асыгноўваць сумы на іх арганізацыю. Нічога, што мільёны безпрацоўных высыхаюць з голаду і нэндзы. За тое на вуліцах Бэрліну і другіх гарадоў спацыруюць у белых кашулях з фашыстоўскімі знакамі на рукавах расейскія белыя эмігранты, — сынкі тых, якія былі ўладарамі былое царскае Расеі.

Пры такой актыўнай грашовай дапамозе створана арганізацыя пад назовам „Россійское Освободительное Народное Движеніе“ і выдаецца газэта «Пробужденіе Россіи».

На чале гэтага руху стаіць мала вядомы Пельхаў—Светазаров, сын багатае сям'і ў 33 гадовым узросьце.

Хто такі гэты новы правадыр?

Вельмі цікава ведаць, што ён, яшчэ 17-цігадовым хлапцом у трывожныя цяжкія дні 1917 г. ідзе ў белую армію, б'ецца на палёх за „свободу народа“ і «адзіную недзялімую». Дрэнныя рэчы здараліся ў той час, прыхадзілася ўцякаць, хто як і куды змог. Ня ведаем, які шлях — морскі ці сухапутны — прывёў адважнага правадыра за мяжу. Весткі паказваюць, што ён ад дня эміграцыі пражывае ў Нямеччыне, прыняў нямецкае падданства. Некалькі гадоў належыць да гітлероўскіх арганізацыяў.

Зараз Светазаров актыўна узяўся за працу. У сваёй газэце піша: „За мною стаяць усе чэсныя сыны Расеі, як на эміграцыі, так і там у самай Расеі“. Ен выступае на мітынгах, сходах і з інтузыязмам і жарам кажа: „На плечы Гітлера лягла задача ратаваньня Нямеччыны, — на мае вызваленьне Расеі“.

Ужо сяньня мы бачым пасьпехі маладога „правадыра“. За яго плячмі падрад выстраіліся вядомыя „сыны народу“, іх можна пералічыць: князь Бэрман-Шувалаў, генерал Сахараў, шэф штабу белае арміі адмірала Колчака В. Д. Галавачоў, генэрал Шчарбіна і шэраг другіх добра вядомых сапраўдным сынам народу па сваёй мінуўшчыне.

У нізох эміграцыі вядуцца ціхія гутаркі, што „паднімаюцца сапраўдныя збавіцелі Расеі“, на іх

## Пойдзем за добрым прыкладам!

Наш горадзенскі карэспандэнт Якім Бяздомны піша: «Апрача таго я арганізаваў прэсавую тройку, якая будзе займацца: 1) прыдбаньнем падпішчыкаў, 2) пашырэньнем газэты, 3) прапагандай высылкі грошаў на прэсавы фонд. Наагул трэба сказаць, што газэта даволі паважная і можа задаволіць чытача-работніка. Гэта я кажу са слоў работнікаў».

Вось гэты прыклад зьяўляецца надзвычай характэрным і павучальным для кожнага нашага карэспандэнта, а нават чытача. Якім Бяздомны не задавольваецца толькі чытаньнем газэты і пісаньнем у яе. Ён перадусім клапоціцца аб тым, каб наша газэта даставалася да рук найшырэйшых колаў рабочых і сялян. Яго, як перадавага, сьвядомага грамадзяніна нашага народу, абходзіць у першую чаргу справа існаваньня газэты, як такой. Ен вярбуе нам *платных* падпішчыкаў, ведаючы добра, што гэта найважнейшая на сяньняшні дзень для «Белар. Газэты». Таму кожны сьвядомы падпішчык, кожны сьвядомы беларус павінен узяць прыклад Я. Бяздомнага і выканаць свой грамадзкі абавязак у адносінах да адзінае беларускае газэты ў нашай краіне, адпавядаючай інтарэсам самых шырокіх колаў нашага грамадзянства.

Хай прыклад нашага Горадзенца запаліць энэргію ў кожнага з нас да працы над умацаваньнем свае прэсы.

Вітаючы прыгожы пачатак Якіма Бяздомнага, рэдакцыя пастанавіла залічыць яго ў ганаровыя карэспандэнты «Белаурскае Газэты».

Пойдзем за добрым прыкладам!

---

**Пішэце аб жыцьці вёскі, фальварку, фабрыкі, зьбірайце грошы, каб палепшыць матэрыяльны стан „Беларускай Газэты“.**

---

пакладаюць вялікую надзею, асабліва на Пелхаў-Светазарова.

Часам ставяць пытаньня, як і чым будуць збаўляць?

І зараз-жа задаваляюць сябе адказам:

«Ня нашы да гэтага справы, памазаннік Божы ведае. Яго ня можна пытацца».

Ясная рэч, што ведае. Ведаў-жа калі быў 17-ці гадовым хлапцом, што, каб вырататаваць мінулае трэба пайсьці ў белую армію; гэта было яго першае, як кажуць, «памазаньне».

Другое, калі ён прыймаў нямецкае подданства і ўступаў у шэраг чорных кашуль. Зараз ён, падкруціўшы вусы, пачысьціўшы боты і шпоры, «памазаўся» трэці раз, каб з бізуном у руцэ прайсьці па расейскай зямлі, правучыць крамолу так, як вучыў яе бацька-нябожчык. Ці згодзяцца пайсьці з «памазаньнікам божым» сапраўдныя Сыны Зямлі? Хай адкажуць на гэтае пытаньне нашы чытачы, якія добра бачаць, як заварушыліся пад плашчыкам Гітлера былыя „збавіцелі народу”.

*Франтавік.*

# Нашае жыцьцё.

**Вільня.**

### Пачатак школьнага году ў беларускіх філіях.

Дня 21 жніўня ў беларускіх філіях польскіх гімназіяў у Вільні і Навагрудку распачаліся нармальныя заняткі. Уступныя экзамены адбываліся паміж 21 і 25 жніўня.

### Суд Ярэміча з беларускімі санатарамі

Усё ня могуць ніяк паладзіць. Грызуцца і грызуцца. Санатары абвінавачвалі і абвінавачваюць Ярэміча і хадэкаў у тым, што яны за ўрадавыя грошы змагаюцца з беларускім рухам, а хадэкі з свайго боку абвінавачваюць санатароў у гэтым-жа.

Дня 7 г. м. у Віл. Акружным Суде адбылася расправа Ярэміча з бел. санатарамі. На лаве падсудных засеў рэдактар быўшага органу бел. санацыі „Бел. Звону“ М. Сіняўскі, які абвінавачваўся ў тым, што ў прошлым годзе ў сваей газэце зьмясьціў вестку, у каторай цьвердзіў, што Ярэміч браў ад польскіх уладаў па 3 тысячы злотых у месяц і за гэтыя арошы выдаваў „Сялянскую Ніву“, у якой заядла змагаўся супроць Грамады. На судзе выступілі сьведкі Сіняўскага — Луцкевіч і Астроўскі, з якіх апошні паказаў, што першыя весткі аб тым, што Ярэміч атрымліваў грошы ад ураду падаў яму пасол Ваявудзкі, ён-жа б. афіцэр 2-га аддзелу Генеральнага Штабу. Луцкевіч на пытаньні адвакатаў паказаў, што, між нішым, пасол Ярэміч знаходзіўся ў вельмі блізкіх адносінах з быўшым шэфам бясьпечнасьці, а пасьля віцэ-ваяводай Кіртіклісам, а так-жа з забітым у часе працэсу Грамады правакатарам Гурыным ды з вядомым супрацоўнікам дэфэнзывы Валэйшай. Усё гэта стварыла грунт дзеля веры ў праўдзівасьць закідаў зробленых у „Беларус. Звоне“ п. Ярэмічу.

Суд, прызнаючы вінаватым М. Сіняўскага засудзіў яго на месяц арышту і 100 зл. штрафу, адначасна даруючы яму гэтую кару на падставе амністыі—з тым, каб прыгавор суду быў надрукаваны на кошт Сіняўскага ў „Слове“ і беларускіх часопісях у Вільні.

### Канфіската „Летапісу ТБШ“.

№ 2 „Летапісу ТБШ“, які паявіўся ў сьвет у палове гэтага месяца канфіскаваны па загаду адміністрацыйных уладаў.

### Канфіската „Самапомачы“.

Таксама сканфіскаваны па загаду ўладаў № 7-8 хадэцкай коопэратыўнай часопісі „Самапомач“ за артыкул: «Перад пачаткам новага школьнага году».

### Забастоўка краўцоў.

У палове гэтага месяца выбухла забастоўка 60 краўцоў. Бастуючыя дамагаюцца павялічэньня заработнай платы і палепшаньня варункаў працы. Дацяперашнія перагаворы работнікаў з гаспадарамі не давялі да пазытыўнага рэзультату.

### III Паўночная Выстаўка ў Вільні.

Дня 26-га г. м. распачынаецца ў Вільні III-я Паўночная Выстаўка, якая працягнецца да 10 верасьня г. г. На выстаўку мае прыехаць шмат гасьцей з заграніцы, між іншым і з СССР.

### Надзвычайны суд.

На выязной сэсіі ў Вялейцы Віл. Акр. Суд у характары надзвычайнага разглядаў справу В. Клінцэвіча, які абвінавачаны быў у вядзеньні шпігоўства і замаху на жыцьцё некалькіх паліцыянтаў. Пасьля разгляду гэтай справы суд вынес прыгавор, на падставе якога В. Клінцэвіч засуджаны на кару сьмерці праз павешаньне. Прысуд выкананы.

### Ліквідацыя забастоўкі.

Трываючая ад даўжэйшага часу забастоўка ў віленскіх цагельнях гэтымі днямі зьліквідавана. Работнікі прыступілі да працы ў зьвязку з тым, што гаспадары прадпрыемстваў пайшлі на ўступкі.

### Перамаглі.

Забастоўка 300 маляроў у Вільні, якая выбухла паміж 5-10 жніўня, закончана. Работнікі атрымалі падвышку 20%. У выніку гэтага майстар будзе зарабляць 6 зл. у дзень, рабочы 5 зл.

(Слово).

### Недабор.

„Kurjer Wileński“ падае: за ліпень месяц з вызначанае па пляну падаткавае сумы, змаглі сабраць толькі 400.000 зл. заместа 700.000. Недабор выразіўся ў 300.000 злотых.

„Kurjer Wileński“ лічыць такое зьявішча катастрафальным для гарадзкага бюджэту.

**Горадня.**

### І ў нас крызіс.

Гаспадарчы крызіс, які моцна сваёй нішчучай рукой стукае ў дзьверы ўсіх прадпрыемстваў, пастукаў нарэшце і ў дзьверы горадзенскага магістрату. Сёлетнія работы, якія былі прадугледжаны бюджэтам нат' і на палову ня выкананы, дзеля таго, што няма фундушу (грошаў). Мясцовыя служачыя,гэта значыць камунальныя працаўнікі дзеля гэтай вось прычыны не атрымліваюць сваіх пэнсіяў ад траўня месяца, хоць маем ужо жнівень. У апошні час каля 20 служачых атрымалі вымаўленьне працы, а ўсе тыя, якія маюць яшчэ шчасьце працаваць атрымалі падарунак у выглядзе паведамленьня аб тым, што ад 15 жніўня с. г. ім абніжаецца пэнсія. Абніжэньне гэтае выносіць ад 15 да 60 зал. у месяц і моцна б'е па варунках пераважна ніжэйшых працаўнікоў, як служачых электроўні, вадаправоду, пажарнікаў, шпіталю і г. д.

+ У нас, як ведама, ад магістрату на публічных работах працуе каля 160 асоб выключна стопрацэнтовыя плебэі. Яны ня маюць ні кала, ні двара,—у дадатку тыя, якія маюць на ўтрыманьні сямью, з каторай ніхто не зарабляе.

І вось Магістрат пры дапамозе свайго дарад

---

# Банкруцтва Гітлерызму.

Штодзенныя выданьні ўсіх кірункаў усяго сьвету ні на адну хвіліну ні спускаюць з сваіх шпальтаў здарэньняў, якія адбываліся і адбываюцца ў Нямеччыне.

Шэсьць месяцаў панаваньня Гітлера—тэрмін ня доўгі, а колькі паддзей адбылося за гэты час, якія былі накіраваны на шуканьне выхаду з крызысу капіталістычным шляхам. З гэтаю мэтаю даваліся гарачыя заявы, рабіліся энергічныя першыя крокі з мячом, агнём і кроўю. Запэўнялі, што праз пару месяцаў будзе зьнішчана галоўнае зло — марксызм разам з камуністамі, пасьля чаго Нямеччына прыступіць да выканаьня пляну 4-х-годкі.

Трэба адзначыць, што гэтыя вызначаныя два тры месяцы на расправу з навукаю і з працоўнымі былі месяцамі перабудовы шэрэгаў, пацярпеўшым паражку нямецкім народам, які ня быў у стане, дзякуючы шматгадовай здрадзе ІІ-га Інтэрнацыяналу і свае дамашняе содыял-дэмократыі, даць адпор да прыходу і ў дні прыходу да ўлады Гітлерызму.

Два, тры месяцы прабегла больш менш пры агульным ўражаньні, што Гітлеру удалося расправіцца з галоўным сваім ворагам. Гэта толькі на першы пагляд, калі глядзець на с.-д. дэпутатаў, якія 17-га траўня паднялі рукі за Адольфа, а добрая часьць іх уцякла за мяжу, ратуючы сваю скуру. На справе нямецкі народ рабіў ператасоўку сваіх сіл, растаўляў іх на вучастках, вывучаў аб'екты чыну, вучыў людзей, як трэба працаваць у новых умовах.

Пасьля двох-трох месяцаў мінуў стан бязчыннасьці шырокіх нізоў, закончылася перастаноўка сіл. Яны перайшлі да адкрытых баёў з фашызмам. Ня гледзячы на існуючы тэрор гітлероўскіх штурмавікоў, нямецкі культурны працоўны народ ня церпіць барбараў. Няма газэты на сьвеце, незалежна ад яе кірунку, якая-б ня пісала аб зацятай барацьбе, аб тым, «што сёньня знайшлі двух забітых штурмавікоў», у другім мейсцы штурмавікі разам з паліцыяй уцяклі пад напорам мас, там знайшлі чуць жывога Гітлероўца, якога рабочыя прыбілі мокрымі мяшкамі. Аб гэтым кажуць шпальты газэт, аб гэтым пішуць замежныя карэспандэнты, гэтага ня могуць ня бачыць правадыры гітлероўскага руху. Яны бачаць і адчуваюць, што куды лягчэй накрэсьліць плян зьнішчэньня, плян лятуцэньняў аб рэвізыі граніц, чым іх правясьці ў жыцьцё. Таму Гэрынг, выступаючы кажа. крычыць... «Марксызм не задушаны, ён падымае галаву!..» Гэрынг вялікі практык, ня хоча быць галаслоўным перад сабраўшыміся штурмоўцамі, дастае з партфэлю 25 штодзенных выданьняў трасе імі, лямантуе: „Вось работа тых, каго мы павінны зьнішчыць!..»

Але мала чаго ім хацелася: яны хацелі забраць Памор'е, Украіну і Беларусь, прылучыць да сябе Аўстрыю, хацелі і хочуць пайсьці вайною на Усход.

— Аднак, мы, гэтага ня хочам. Мы хочам самы быць гаспадарамі свае краіны, трымаць братнія стасункі з усімі народамі—так адказваюць нізы і добра-сумленныя культурныя немцы, якія ідуць з гэтымі нізамі.

Шасьці-месячны балянс панаваньня Гітлера выглядае вельмі сумна. Апрача дзесяткаў тысяч кінутых у турмы і канц-лягеры, праведзеньня соткаў і тысячаў аблаў з біцьцём і рабункамі, зачыненьня рабочых дамоў, саюзаў. увядзеньня сямяротных прысудаў,—апрача гэтага людзі ў чорных кашулях нічога іншага зрабіць не змаглі і ня змогуць.

Як сярэднявечныя інквізытары, паліўшыя здабыткі народу, думалі спаліць і думку яго так і Гітлер хоча прымусіць мозг працаваць цаводле сваіх жаданьняў.

Дарэмна Гітлер спаліў томы К. Маркса Ромэн-Ролана, Максіма Горкага. Засталася іх аснова — эканоміка, людзі, ці прасьцей, 6 мільёнаў безработных, соцыяльнае дзяленьне грамадзянства на багатых і бедных. Гэтага ня ў стане зьнішчыць Гітлеры, Гэрынгі са сваімі апрычнікамі

Цяпер ня можна ня бачыць хістаньня ў шэрагах штурмавікоў, якія пайшлі за Гітлерам, паверыўшы яго дэмагогіі. Як вынік такіх хістаньняў, мы маем роспуск шэрагу штурмавых атрадаў, застасаваньне надзвычайных судоў да штурмавікоў, якія «словам і чынам» будуць дамагацца выкананьня сапраўдных патрабаваньняў мас. У паасобных гарадох цэлыя арганізацыі прызнаны шкоднымі і распускаюцца. Трэба адзначыць, што ў гэтых арганізацыях было ня мала абманутых рабочых, якія зразумелі сапраўдныя мэты Гітлера. Гэта ў сваю чаргу выклікала загад аб рэарганізацыі ўсіх гітлероўскіх штурмавых атрадаў, і чыстку іх ад непажаданых элемэнтаў.

Сяньня ў Нямеччыне характэрным зьяўляецца тое, што шырокія нізы народу разам з перадавою культурнаю часткаю пашлі супроць гітлерызму.

Далейшы гаспадарчы заняпад яшчэ раз сьцвярджае правідловасьць прадбачаньняў банкруцтва гітлероўскіх плянаў, як унутры краіны, так і ў справах замежных.

Ня можна такжа ня прызнаць слушнасьці зьмешчанаму артыкулу ў «Gazecie Polskaj» аб поўным банкруцтве ІІ-га Інтэрнацыяналу і Нямецкай С.-д., якое разам з сабою прывяло ў лягер працоўнага фронту проціў гітлерызму тых, хто доўгі час быў абмануты імі (Соцыял-дэмократамі).

Далейшыя падзеі будуць залежыць ад актыўнасьці дзеяньняў шырокіх народных гушчаў і іх передавае часткі, якая да гэтага часу паказвала прыклады працы.

*К—сь.*

### Міжнародны Кангрэс гістарычных навук.

Дня 21 г. м. у Варшаве распачаўся міжнародны кангрэс гістарычных навук. На кангрэс зьехалася каля тысячы выдатнейшых вучоных сьвету, ня выключаючы і прадстаўнікоў Савецкага Саюзу.

На прапазыцыю старшыні кангрэсу польскага прафэсара Б. Дэмбінскага Міжнародны Камітэт гістарычных навук пастанавіў выбраць Маршалка Пілсудскага ганаровым старшынёй кангрэсу, што было спаткана гучнымі аплёдысмэнтамі ўдзельнікаў кангрэсу.

### Даходы чыгункі.

Агульны даход чыгункі за першы квартал 1933 году складае лічбу у 201 мільён, — выдатак 204 мільёнаў. У 1932 г. за гэты самы квартал даход выносіў 238 мільёнаў, а ў 1931 г. аж, 306 мільёнаў. За два гады даход зьменьшыўся на 105 мільёнаў злотых. Выдаткі за гэты-же пэрыяд зьменьшыліся на 99 мільёнаў. (Robotnik).

### Перамаглі.

Двух тыднёвая забастоўка рабочых, дабываючых на рацы Віслі жвір, закончана. Заробкавая плата павялічана на 44%, ўпараўнаньні да таго, што зараблялі да гэтага часу, а зараблялі ня больш 1 зл. 50 гр. у дзень. (Robotnik).

### Мова лічбаў.

„Kurjer Wileński" падае наступныя весткі: колькасьць ажаніўшыхся ў Польшчы за 1930 г. складае круглую лічбу 300.000. У 1932 г. 270.000.

Нарадзілася дзяцей: у 1930 г. 1.015.000, 1932 г. 932.000. Маем зьмяншэньня на 83.000 душ. Першы квартал гэтага году паказвае далейшае рэзкае зьмяншэньне. Калі параўняць з 1 кв. 1932 г. то цяпер зьменшылася на 34.000 душ. Натуральны-ж прырост паменшыўся на 44.000 душ.

У 1925 г. натуральны прырост складаў 18 ч. на 1000 (35 родзілась 17 умірала) цяпер гэты прырост панізіўся да 10 чалавек на 1000.

Вельмі цікавыя лічбы падае „Kur. Wil." аб Сав. Саюзе. Там у сярэднім на 1000 чалав. натуральны прырост дасягае 21,7 чал. (родзіцца на 1000—42 умірае 21).

У параўнаньні з Польшчай прырост перавышае ў два разы. Ад 1926 г. да 1-І. 1932 насельніцтва СССР павялічылася на 16.000.000 чалавек.

### За плату 1928 году.

„І. К. С." паведамляе: у Лодзі бастуюць будаўляныя работнікі. Аднáчасова спынілі працу будаўлянікі Азоркава і Згежу. Работнікі патрабуюць тарыфнае платы ад 1928 году без ніякіх абніжак. У Варшаве забастоўка будаўлянікаў прадаўжаецца ўжо некалькі тыдняў.

### Чаму зьмяншаецца.

У 1932 годзе у-ва ўсёй Польшчы налічвалася радыё-абанэнтаў 310.000, у 1933 годзе зьменшылася да 296.000 — на 14.000 абанэнтаў.

### Лічбы I кварталу 1933 году.

Зьмяншэньне вывозу замяжу харчовых прадуктаў за першы квартал выглядае так: сьвініна з 27.123 да 22.947 тон, масла з 1.026 да 355 тон, яйца з 18.338 да 9.771 т., — быдла рагатага буйнага з 5.694 штук да 1.648 штук. Зьмяншэньне ёсьць і ў другіх галінах, як у колькасных так і вартасных адносінах за выключэньням сьвініны, дзе, як бачым, колькасьць зьменшылася, а вартасьць павялічылася з 34.382 да 35.642 тысячы зл. („Г. П.")

## Заграніца

### Іх баланс.

У Францускім друку гэтымі днямі зьявіўся баланс гітлероўскага тэрору ў Нямеччыне. З яго мы бачым, што за надоўгі час існаваньня:

500 чалавек выступаўшых супраць ураду забіта,
50.000 моцна пабітых у засьценках,
50.000 пасаджана ў канцлягэры
350.000 вобыскаў з рабункам і біцьцём,
50.000 пазбаўлена жыльля, працы, прымушаны да нелегальнага існаваньня, абрабаваных і
700 зачыненых газэт, рабочых дамоў і саюзаў.

Красамоўны баланс... Існуюць надоўга, а такі цудоўны малюнак лічб здабылі. Перад імі бляднее сярэднявечча.

### На 75 міль. даляраў.

Сав. Саюз робіць заказы ў Амэрыканскай прамысловасьці на 75 мільёнаў даляраў. Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты ў Амэрыку выяжджае 40 сав. спэцыялістаў. Заказы будуць зроблены ў фабрыках: прыладаў для самалётаў, аўтамабільных і плянтацыях бавоўны.

Аднáчасна будуць вясьціся перагаворы аб пазычцы для Сав. Саюзу.

У Амэрыканскіх палітычных кругах зьвязваюць гандлёвае ажыўленьне з хуткім прызнаньнем Саветаў праз Амэрыку.

### Зусім ня мала.

На усім сьвеце налічваецца 35.000.000 аўтамабіляў. Паміж дзяржавамі яны размеркоўваюцца ў % так: Амэрыка 74%, Францыя 4,8%, Англія 4,5%, Канада 3,4%, Нямеччына 2%, Аўстралія 1,75%. У рэшце дзяржаў ніжэй аднаго працэнта.

У вялікіх сталічных гарадах знаходзяцца такія лічбы аўтомашын: Нью-Іорк — 799.000, Чыкаго—490.000,—Лёндан 299.000, Парыж—205.000, Бэрлін—64.000.

### Школа ў СССР.

Разьвіцьцё школ і агульнае адукацыі ў СССР за апошнія гады паказвае лічба дзяцей, якую абыймае пачаткавае школьніцтва:

| | |
|---|---|
| 1928-29 г.—11.811.000 | 1930-31 г.—17.428.000 |
| 1929-30 г.—13.206.000 | 1931-32 г.—20.357.000 |

і у 1932 годзе 23.623.000.

Прыведзеныя лічбы варта параўнаць з тым, што мела Царская Расія ў 1914-15 годзе. Лічба вучыўшыхся ў той час складала 5.607.000. Як бачым узрост больш чым у чатыры разы.

### Ураджай.

Газэты падаюць, што ураджай у гэтым годзе у С.С.С.Р. зьяўляецца найлепшым, які мае быць за апошнія 20 гадоў. На дапамогу збору хлеба ў многіх пунктах накірованы цэлыя атрады Чырвонае арміі.

### Вось дык розьніца!

Паказальнікам культурнага уздыму кажнага народу як і СССР побач з другімі фактамі зьяўляецца разьвіцьцё чытаньня кніжкі і газэты.

Так у 1931 годзе па Сав. Саюзу выходзіла 5549 газэт, пры штодзенным накладзе 33 мільёны 156 тысяч экзэмпляраў. У той час калі ў 1913 годзе выходзіла толькі 1159 газэт з штодзенным накладам 2.700.000 экз.

Цяпер бадай што кожны дзен выходзіць столькі экзэмпляраў аднае газэты „Праўда".

Кніжак за 1931 год выдана 3500 мільёнаў аркушаў, у 1913 г. толькі 550-600 мільёнаў.

### Тэрор Гітлера.

З Парыжу паведамляюць, што за час панаваньня Гітлера ў Нямеччыне у Францыю эмігравала 40.000 нямецкіх жыхароў. Да гэтага трэба дадаць, што эмігруюць найбольш перадавыя культурныя сілы.

### Арышты работнікаў.

З Бэрліна паведамляюць, што арышты рабочых падазроных у камунізьме прадаўжаюцца па усей Нямеччыне. Гэтымі днямі ў Бэрліне арыштавана 60 камуністаў, у аколіцах Брандэнбурга — 40, у Бонн—27, у Бруншвіцку за два дні арыштавана 250 асоб, у Гельсеткірхен — 9 рабочых камуністаў. Кожын дзень усё новыя і новыя тысячы людзей кідаюцца ў турмы і канцлягеры.

### Навуковая экспэдыцыя.

Савецкі ўрад выслаў у палярныя краі 2000 навуковых працаўнікоў з мэтамі вывучэньня і шуканьня натуральных багацьцяў у палярнай вобласьці, і дзеля картаграфічнай працы.

### Тайфун.

Праз Карэю (японская колёнія) прайшоў тайфун (віхар) які зьнішчыў: 2000 дамоў, 360 рыбацкіх параходаў затоплена і разьбіта, папсавана 1020 лодак. Сярод людзей 27 забітых, 200 раненых і 230 ня знойдзена.

### Машыны для СССР.

Выдатны прамысловы прадстаўнік Савецкага Саюзу інжынэр Данзігер, які зьяўляецца прафэсарам Маскоўскае Акадэміі прыехаў у Варшаву з мэтаю вывучэньня магчымасьцяў задаваленьня польскімі машынамі патрэб металёвае прамысловасьці СССР.

### 54 гадзіны ў паветры.

Два францускіх летнікі: Россі і Кодас прабылі ў паветры 54 гадзіны і 45 хвілін. За гэты час яны праляцелі ад Нью-Іорку да Сірені—9513 кілёмэтраў—без пасадкі. Россі і Кодас здабылі пяршынства ў цэлым сьвеце, якое знаходзілася да гэтага часу ў Ангельскіх лётнікаў—капітана Гонфорд і поручніка Ніхоллевісс, якія праляцелі ў 1932 годзе 8593 кілёмэтраў,—адлегласьць меньшую ад францускіх лётнікаў на 920 кілёмэтраў.

### Зьнішчылі штандар.

З сталіцы Ісляндыі даходзяць весткі, што ў мяйсцовасьці Сігліфгод сабраліся жыхары каля нямецкага консульства, з абурэньнем і пратэстамі дасталі гітлероўскі штандар з фашыстоўскім знакам і зьнішчылі яго дашчэнту.

### Гітлероўцы прабуюць.

Узброеная група гітлероўцаў перайшла праз швэйцарскую граніцу на тэрыторыю Швэйцарыі ў мяйсцовасьці Агст Віглен, дзе правелі рэвізыю ў электроўне.

### Выбух парахоўні.

З Токіо (Японія) паведамляюць аб выбуху парахоўні ў ваколіцы Іокогамы. Сіла ўзрыву была жудасная, гмахі на адлегласьці 100 мэтр. зьнішчаны, налічваецца некалькі забітых з жыхароў і салдат, ахоўваючых парахоўню. Агульны лік пацярпеўшых да гэтага часу не ўстаноўлены.

### Савецкія машыны для Латвіі.

Гэтымі днямі ў Рыгу (Латвія) прыбыла з Сав. Саюзу 3 вагоны з касілкамі выраблёнымі на савецкіх заводах для патрэб сельскае гаспадаркі Латвіі.

### Паканчыў самагубствам.

З Бэрліну пішуць: прафэсар Мальбургскага унівэрсытэту Сэйцэль паканчыў самагубствам. Цесна людзям навукі ў рамках гітлерызму.

### Баі ў Мароко.

З Мароко паведамляюць аб крывавай бойцы паміж францускімі каляніяльнымі вайскамі і паўстанцамі, якія на працягу усяго часу бойкі энэргічна нападалі на францускі атрад, займаючы мяйсцовасьць у даліні Гегіс.

З францускага боку забітых налічваецца 42 асобы, раненых 65. Аб паўстанцах вестак няма.

### Сьвініна для Саветаў.

Савецкім торгпрэдствам у Рэвелі (Эстонія) падпісана ўмова на дастаўку 300 тон эстонскае сьвініны для СССР. Разьлік прадугледжваецца ў эстонскіх каронах у двухтыднёвы тэрмін па адгрузцы.

### СССР і Італія.

З Рыму паведамляюць, што догавар аб ненападзе паміж СССР і Італіей павінен быць падпісан у бліжэйшых днях. (K. W.)

### Сьмяротны прысуд.

З Гамбургу (Нямеччына) паведамляюць, што сябра штурмовага атраду Ціммэр за распаўсюджваньне камуністычных адозваў судом прыгаворана да кары сьмерці.

Ціммэр сказаў: „Гітлер здрадзіў ідэалам соцыяльнай рэвалюцыі, таму я перайшоў да камуністаў". Далей ён дадаў: „Калі карацца усіх за супрацоўніцтва з камуністамі, тагды быў-б прымушаны палавіну усіх штурмоўцаў прыцягнуць да адказнасьці".

Намесьнік Гамбургу паслаў Гітлеру хадатайства аб памілаваньні Ціммэра, каторы зьяўляецца найстарэйшым з сяброў гітлероўскага руху. (Газ. Поль).

### Бунт у канцлягеры.

У концэнтрацыйным абозе ў Дургейм (Бадэнія), дзе знаходзіцца да 100 штурмавікоў-гітлероўцаў за бунт, забіта, падчас спробы уцячы, тры штурмоўцы.

Гэтае здарэньне выклікала у канцлягеры вялікае забурэньне, якое прыняло пагражаючы стан. Кіраўнікі абозу былі прымушаны, сьцягнуць збройныя сілы для апанаваньня сытуацыі. (Gaz. Pol.)

### Арышт Чарняка.

Гэтымі днямі быў арыштаваны ў Бэрліне карэспадэнт „Праўды" Чарняк. Пасьля энэргічнага пратэсту з боку савецкага консульства Чарняк быў вызвалены праз некалькі гадзін.

### Суд Англіі.

Адзін з вядомых правадыроў нац.-выз. руху Індыі-Сурыа-Сен, арганізатар рэвалюцыі ў Бэнгаліі прыгаворан трыбуналам у Хіттагонг на кары сьмерці.

## Адказы рэдакцыі.

*М. Лешук.* За інфармацыі аб варунках працы і плата батракоў і сэзоннікаў дзякуем. Выкарыстаем. Вершы да друку не надаюцца. Пішыце лепей карэспандэнцыі.

*Я. Хмысько.* Вершаў ня зьмесьцім. Папрабуйце пісаць прозаю.

*Веча.* Карэспандэнцыя Ваша в. добрая. Поўнасьцю аднак скарыстаць з яе ня можам з увагі на цэнзурны мамэнт.

*А. Бароўка.* З карэспандэнцыі не скарыстаем, бо яна вельмі агульніковая. Пішэце аб канкрэтных фактах і коратка.

*К. Д., М. Міхневіч, Б. Аўдзей.* Так, газэту Вам спынілі, бо да гэтага часу не атрымалі ад Вас падпіскі.

*В. Лебядзь.* Ня зьмесьцілі. Але Вы маеце пэўны нахіл да пісаньня. Трэба толькі больш над сабой працаваць. Чытайце Коласа, Купалу, Гартнага. Напішыце нам што-небудзь прозаю.

Атрыманы грошы ад: Крупіча Яна, Дуньца М., Раловіча Б., Скурка Б., Борушкі М., Талюца А., Шлыка А., Зенісіка А., Кракончыка М., Рыбачонка Г., Казла Я., Курыла А., Грыцука А.,—па 70 гр., Вішнеўскага С. — 75 гр.; Булаўскага І., Лагана М.—па 80 гр., Хадзінскага А., Хобна С., Казарэза М., Івашэвіча І., Родзька А., Усьціновіча І., Хжаноўскага В., — па 1 зл.; Сільвановіча М., Лемена А., Лукіянчыка М., Таранцэя І., Захарчыка В., Паўлыша М., Бэдэса П., Русака В., — па 1 зл. 30 гр.: Каап. у в. Трошчыцах, Карсака І., — па 1 зл. 50 гр., Апона С., Шчэрбы В., Тамашэвіча І.,—па 2 зл.; Грыцука М., Орашко М.,—па 2 зл. 50 гр.; ад Ляшчынскага В., — за праданыя газэты у Беластоку — 20 зл., і сабраных на прэсавы фонд—30 зл.

Рэдактар-выдавец: інж. А. Карповіч. Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22